

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына** (іншыя эўрапэйскія краіны бяз Францыі й паўдзённаамэрыканскія краіны»: год — 25 н. м.; паўгода — 12,5 н. м.; **ЗША й Канада:** год — 13 дал.; паўгода — 6,5 дал.; **Ангельшчына й Аўстралія:** год — 60 шыл.; паўгода — 30 шыл.; **Францыя:** год — 25 н. ф.; паўгода — 12,5 н. ф. **Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 11 (595) — Мюнхэн, 22-га ліпеня 1962 г. – München, Sonntag, 22 Juli 1962 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 16

# Да 80-гадовага юбілею Янкі Купалы

«І калі зьдзекуецца нада мною хтосьці —  
Над Бацькаўшчынай зьдзекуецца ён маей,  
Калі-ж над ей — мяне тым крыўдзіць  
найцяжэй».

Янка Купала

80 год мінула ад дня нарожджаньня нашага нацыянальнага трыбуна, волата слова й духа, велічы якога не затруць стагодзьдзі, ня зьменшаць ніякія махінацыі ворагаў. Дваццаць год мінула ад ягонае трагічнае сьмерці на чужыне — сьмерці, прычыны якое да гэтага часу так старанна затойваюцца тымі-ж ворагамі. І гэтых дваццаць год давялося паэту адбыць на пасьмяротным выгнаньні, на чужыне. Якбы прадчуваючы гэтае выгнаньне, яшчэ дзесяцігодзьдзі раней ён пісаў:

А хоць дасьць мне доля ў дамавіне месца,  
Ўстане цень зь зямлі мой, на крыж абапрэцца,  
І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,  
Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай.

І вось выгнаньне скончылася. Сухі, казённы загаловак у рэспубліканскай партыйнай прэсе: «Пахаваньне ўрны з прахам Янкі Купалы ў Мінску». І далей: «30-га чэрвеня ў Маскве адбыўся мітынг у сувязі з пераносам урны з прахам народнага паэта Беларусі Янкі Купалы для пахаваньня ў горадзе Мінску». Апісваецца мітынг у Маскве, і 2-га ліпеня — у Менску, калі сьмяротныя рэшткі паэта былі пахаваныя на гарадзкіх могілках, на Даўгабродзкай вуліцы. «Мэлёдыя жалобнага маршу зьмяняецца велічнымі гукамі дзяржаўнага гімну Савецкага Саюзу і Беларускай ССР», — гаворыцца ў казённым паведамленьні БЕЛТА...

*

Пэўна-ж не такога павароту на Бацькаўшчыну чакаў Пясьняр, хоць спачыць на роднай зямлі ён хацеў. І спачыў — ды яшчэ не на вольнай.

Але што-ж прымусіла панявольнікаў пасьля 20-ці гадоў выпусьціць з Масквы сьмяротныя рэшткі несьмяротнага Трыбуна нашага нацыянальнага вызвольнага руху? Прычыны, хіба, ясныя. Папершае, цяжка, немагчыма ім было далей апраўдваць перад беларускім народам такое «выгнаньне» ягонага найвялікшага Пясьняра. Ці-ж гэта ня было найбольш яскравым сымбалем духовага й нацыянальнага паняволеньня Беларусі? Падругое, панявольнікі пастанавілі выкарыстаць гэтыя дзьве падзеі — перанос урны й 80-гадовы юбілей народнага паэты — дзеля найбольшага, бадай роспачнага наступу на Песьнярову спадчыну, намагаючыся канчаткова прысвоіць яе сабе, а самога паэта прадставіць, як усьцяжнага носьбіта іхных ідэялаў. Аб гэтым вельмі-ж выразна сьветчыць прапагандовая шуміха, выказваньні мясцовых і прысланых партыйных рупараў з нагоды прыгаданых падзеяў.

*

Партыйны палітрук беларускае падсавецкае літаратуры Пятрусь Броўка, выступаючы ў Маскве на мітынгу з нагоды пераносу сьмяротных рэштак паэты ў Менск, думаеце, гаварыў **аб Купалу?** Цытуем афіцыйнае паведамленьне БЕЛТА: «Ён гаворыць аб непарушнай дружбе паміж савецкімі народамі, аб плённым уплыве вялікай рускай літаратуры на разьвіцьцё беларускай літаратуры».

Ці можа быць большае падлізьніцтва? А другі верны слуга партыі, Кандрат Крапіва, на мітынгу ў Менску, гаворачы аб Купалу, заявіў: «Мара яго збылася: беларускі народ будуе камуністычнае грамадзтва...» Іншыя, як пад дыктоўку, паўтараюць у сваіх артыкулах цьверджаньне: «Янка Купала ад усяго сэрца вітаў перамогу кастрычніка», «горача вітаў сонца кастрычніцкай рэвалюцыі». Купалу называюць «песьняром калгаснага ладу», цьвердзяць пры гэтым, што ягоная творчасьць дасягнула нябывалых вышыняў у «перадваенныя часы — гэта значыць у 30-ыя гады.

*

Якім ёсьць і застаецца запраўдны Купала, найлепш сьветчыць той факт, што ў БССР да гэтага часу забаронена звыш сотні ягоных



твораў. Дый ня дзіва — гэтыя творы доказваюць, што Купала быў сынам свайго народу і ягоным трыбунам, які клікаў яго на змаганьне супраць усіх панявольнікаў — з бальшавіцкім улучна. Як Купала ўспрыняў «сонца кастрычніцкай рэвалюцыі», сьветчаць радкі казённага бальшавіцкага трубадура Дзямяна Беднага:

«Янкі посвіст соловьный  
Заменілся в шіп змеіный,  
Да, в змеіный...»

Так — для новых валадароў Беларусі зьмяніным посыкам былі вершы Янкі Купалы, у якіх ён і далей — як і пад царскай акупацыяй — бараніў правы свайго народу перад наступам новай навалы...

Як «ад усяго сэрца» вітаў Купала «перамогу кастрычніка», сьветчыць і ягоная прамова ў 1920 годзе на ўрачыстасьці з нагоды 15-га юбілею яго творчай дзейнасьці. З нагоды цяперашняга юбілею бальшавікі аб ёй ня прыгадваюць, а тады Купала гаварыў да прадстаўнікоў свайго народу:

«Хай вас не палохае, што рвуць нашую зямлю на часьці, што хаты нашы спалосканы пажарам, што сяўбу нашу жне нехта іншы...

«...На беларускай зямлі было і цяпер ёсьць шмат хвальшывых пракокаў, шмат рэнэгацкіх душ, што за ласку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам — але гэтага няма чаго баяцца... Будзем верыць, што ў нас Беларусаў прыйдуць новыя людзі, новыя пракокі і будуць пабожаму над хвальшывымі прарокамі й прадажнымі душамі суды судзіць, з пакаленьня ў пакаленьне пракляцьцем успамінаць...»

А цяпер хвальшывыя пракокі й прадажныя душы намагаюцца пераканаць наш народ і ўвесь сьвет, што Купала — іхны...

*

Купала — «пясьняр калгаснага ладу...» Што за зьдзек над памяцяй паэты!

Трыццатыя гады. Пасьля няўдалай спробы самагубства, Купала ў духовым падпольлі.

Вось які эпізод прыгадвае Юрка Віцьбіч у сваіх успамінах: У залі Дому Пісьменьніка адбываецца нейкі казённы даклад. Унізе, у падвале-рэстаране сядзіць група маладых пісьменьнікаў. Да іх падыходзіць Купала. Яго просяць прачытаць што-небудзь з апошніх твораў. Купала не адмаўляецца: у гэтым інтымным коле ён чытае першы разьдзел ягонай паэмы на казённую тэму — «Над ракой Арэсай». Пасьля маўчаньне...

— Дзякую за шчырасьць. А там, — Купала паказаў на столь, — а там ёй захапляюцца...»

«Там» хвальшывыя прарокі захапляюцца гэтым сьведама нязданым, казённым творам і цяпер, называюць яго шэдэўрам, бо ў ім гаворыцца аб камуне. Пры дапамозе яго намагаюцца даказаць, што Купала — іхны...

*

«Ягонае жыцьцё **трагічна абарвалася** ўлетку 1942 году» — чытаем мы ў казённых артыкулах з нагоды 80-цігадовага юбілею Купалы.

Трагічна абарваць сваё жыцьцё Купала хацеў сам яшчэ ў 1930 годзе. Гэта быў сымбаль пратэсту ўсяго беларускага народу супраць бальшавіцкага паняволеньня. Купалу адратавалі і аб гэтым бальшавікі цяпер маўчаць. І вось — у 1942 годзе ягонае жыцьцё **трагічна абарвалася.** Гэта значыць — Купала памёр ненатуральнай сьмерцяй. Якім чынам? У якіх абставінах? Аб гэтым бальшавікі ўпарта маўчаць, і маюць, напэўна, падставы... Але праўды не пахаваеш. Як той Купалаў цень — яна ўстане і будзе яшчэ адным пунктам у абвінаваўчым акце супраць нацыянальнага, сацыяльнага і духова панявольніка нашага народу — народу, які так бязьмежна любіў Купала, народу, які так бязьмежна любіць Купалу...

*

Над Ягонай магілай, над Ягонай памяцяй зьдзекуецца панявольнікі, стараючыся цяпер паказаць яго сваім, намагаючыся зрабіць зь яго хвальшывага прарока, прадажную душу. Але зь ягонай магілы не перастаюць гучэць у вадказ ім словы:

І калі зьдзекуецца нада мною хтосьці —  
Над Бацькаўшчынай зьдзекуецца ён маей...

## Тыдзень паняволеных народаў

**14 ліпеня Прэзыдэнт Задзіночаных Штатаў Кэнэды выдаў чарговую Праклямацыю, якой абвесьціў трэйці тыдзень ліпеня (ад 16 да 22) Тыднем Паняволеных Народаў.**

**Гэта ўжо чацьверты раз, як Прэзыдэнт ЗША абвяшчае Тыдзень Паняволеных Народаў і заклікае амэрыканскае грамадзтва адзначыць яго адпаведнымі маніфэстацыямі. Праклямацыя, як і папярэднімі разамі, базуецца на ведамай Рэзалюцыі Амэрыканскага Кангрэсу з 1959 году, у якой у ліку паняволеных Савецкай Расеяй краінаў прыгадваецца й Беларусь.**

**Прэзыдэнт Кэнэды падкрэсьлівае ў Праклямацыі сваю падтрымку ідэі свабоды й незалежнасьці ўсіх народаў.**

## *Тэлеграма*

Ліга Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк) выслала, з нагоды свае Х Канфэрэнцыі, якая адбылася ў Мюнхэне, Канцлеру Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі Конраду Адэнаўэру, тэлеграму наступнага зьместу:

Экэцэленцыя! Ад імя дэлегатаў Х Канфэрэнцыі Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскага Блёку), якія прыбылі на гэтую Канфэрэнцыю з розных краінаў Эўропы і Блізкага Ўсходу і рэпрэзэнтуюць экзыльныя ўрады ці нацыянальна-палітычныя цэнтры народаў Азэрбайджану, Армэніі, Беларусі, Казакаў, Крыму, Грузіі, Ідэль-Уралу, Паўночнага Каўказу, Туркестану і Украіны, выказваем нашу глыбокую ўдзячнасьць Вам, сп. Канцлер, і нямецкаму народу за прытулак і апеку, дадзеныя нашым суродзічам, якія жывуць у Нямеччыне, а таксама за гасьцінасьць для нашых дэлегацыяў.

**Прэзыдыюм Канфэрэнцыі**

# Х. Канфэрэнцыя Парыскага Блёку

Ад 7 да 12 ліпеня адбывалася ў Мюнхэне Х Канфэрэнцыя Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскага Блёку), на якую прыбылі прадстаўнікі ад 9 нацыянальна-палітычных цэнтраў нерасейскіх народаў. Дэлегацыі прыбылі з розных краінаў Эўропы і Блізкага Ўсходу, агулам каля 60 асобаў. Беларуская дэлегацыя складалася зь пяцёх асобаў: Прэзыдэнта М. Абрамчыка, а. д-ра А. Смаршчка, сп. сп. У. Бортніка, Ю. Сенькоўскага і Ул. Цьвіркі.

Пасьля адкрыцьця канфэрэнцыі, выбару прэзыдыюму і прыняцьця парадку дня, слова было дадзенае Прэз. Абрамчыку, як Старшыні Парыскага Блёку, дзеля справаздачы зь дзейнасьці арганізацыі за мінулы 20-месячны пэрыяд. Пасьля справаздачы зь дзейнасьці Прэзыдыюму па лініі унутрана-арганізацыйнага жыцьця Парыскага Блёку, Прэз. Абрамчык спыніўся даўжэй на сваіх уражаньнях зь ягонага васьмімесячнага падарожжа, сустрэчаў і гутарак з шэрагам выдатнейшых дзяржаўных ды грамадзка-палітычных дзеячоў Эўропы й Амэрыкі. Аб'езд гэты ён пачаў у лістападзе мінулага году з Рыму, праз Амэрыку, і закончыў яго ў Эўропе сёлета ў чэрвені. У Рыме, на міжнароднай канфэрэнцыі на тэму: «Палітычная вайна Саветаў», што адбылася ад 18 да 22 лістапада 1961 году і на якую зьехаліся каля 600 дэлегатаў з усіх канцоў вольнага сьвету, Прэзыдэнт Абрамчык зь іншымі сябрамі Прэзыдыюму Парыскага Блёку – сп. сп. Цынцадзэ і Кантэмірам – меў нагоду навязаць кантакты з многімі дзяржаўнымі й палітычнымі дзеячамі Эўропы, Азіі й Афрыкі і даць ім шырэйшыя інфармацыі аб палажэньні й імкненьнях нашых паняволеных Масквой народаў.

У Амэрыцы, падчас свайго чатырохмесячнага побыту там, Прэзыдэнт Абрамчык двойчы адведаў Вашынгтон, а вярнуўшыся ў Эўропу, таксама двойчы адведаў Нямеччыну, Бэльгію й Ангельшчыну.

Вось ягоныя ўражаньні:

1) На міжнароднай палітычнай канфэрэнцыі ў Рыме, дзе сярод 600 дэлегатаў знаходзілася вялікая колькасьць міністраў, сэнатараў, дэпутатаў розных краінаў, выявілася аднадумнасьць аб неабходнасьці больш рашучага актыўнага змаганьня з бальшавізмам; у гэтым змаганьні надаецца штораз большая роля паняволеным Масквой народам, як прыродным саюзьнікам вольнага сьвету.

2) Ня гледзячы на тое, што сучасны амэрыканскі ўрад Прэзыдэнта Кэнэды ськівоўвае сваю палітыку па лініі адпружаньня паміж абадзьвюма дзяржавамі, намагаючыся дамовіцца з Масквой аб супрацоўніцтве на базе «суіснаваньня», аднак зьмякчэньне псыхалягічнай вайны трэба ўважаць часовым, бо Кэнэды й ягоныя найбліжэйшыя супрацоўнікі маюць паважную апазыцыю ў Вашынгтонскіх палітычных колах, – колах, якія стаяць на больш рэальных пазыцыях і ўважаюць палітыку вызвалення больш правільнай.

3) У сталіцах вялікіх народаў эўрапэйскага кантынэнту ў сучасны мамэнт настроі непараўнальна больш спрыяльныя для нашага вызвольнага змаганьня, чымся гэта было два гады таму.

Таму маем падставы спадзявацца, – гаварыў Прэзыдэнт Абрамчык, – на актыўную падтрымку ў нашым вызвольным змаганьні, і магчыма нават у недалёкай будучыні, бо працэс задзіночаньня Эўропы пераходзіць з фазы эканамічнага задзіночаньня да задзіночаньня палітычнага, – асабліва пасьля таго, як Францыя, разьвязаўшы праблему Альжыру, здолее цяпер прысьвяціць больш увагі эўрапэйскім праблемам.

4) Прэзыдэнт Абрамчык з прыемнасьцяй сьцьвердзіў, што пры ягоных шматлікіх спатканьнях у Амэрыцы, а яшчэ ў большай меры ў эўрапэйскіх сталіцах, Парыскі Блёк шырока ведамы і карыстаецца павагай. Як старшыня гэтай арганізацыі, ён меў усюды лёгкі доступ да выдатных дзяржаўных і палітычных дзеячоў, і гутаркі заўсёды мелі шчыры й інтымны характар.

Пераходзячы да ацэны палажэньня ў СССР, Прэзыдэнт Абрамчык, на падставе шэрагу доказаў, сьцьвердзіў наяўнасьць глыбокай, шчырай і спантанічнай дружбы нерасейскіх народаў у іхным змаганьні супраць наступу Масквы, – наступу з мэтай зьліквідаваньня нацыянальнай і культурнай самабытнасьці гэтых народаў.

У канцы свайго дакладу Прэзыдэнт Абрамчык заклікаў удзельнікаў Канфэрэнцыі яшчэ больш зактывізаваць палітычную й грамадзкую працу паасобных нацыянальных цэнтраў і раіў у выпадку паасобных выступленьняў ці пры падаваньні мэмарандумаў не абмяжоўвацца адно скаргамі (як гэта ўвайшло ў некаторых у звычку) аб тым, што нас нішчаць, русыфікуюць, і гэтак далей – а падаваць больш пазытыўных прыкладаў, як нашы народы, ня гледзячы на тэрор, гераічна даюць адпор акупанту. Як прыклад, ён падаў неаднаразовыя сыгналы трывогі бальшавіцкае прэсы аб «буржуазным нацыяналізьме» інтэлігенцыі нашых народаў наагул, і асабліва пісьменьнікаў, навукоўцаў і г. д. Падаваньне такіх фактаў хутчэй спрычыніцца да пастановы вольных народаў прыйсьці нам з дапамогай, пабачыўшы ў нашых народах саюзьнікаў. Нам трэба паказаць, што ў вадбудове нашых незалежных дзяржаваў вольны сьвет будзе мець менш клопатаў, чымся пры будаваньні новастворaных дзяражаваў Афрыкі і Азіі, якія ня маюць дзеля гэтага адпаведных кадраў.

Ной Цынцадзэ, старшыня Грузінскай Нацыянальнай Рады (былы міністар асьветы незалежнай Грузіі) зрабіў справаздачу зь дзейнасьці Кантактнай Камісіі Парыскага Блёку, якой ён зьяўляецца старшынём і заданьнем якое было рэгуляваць дачыненьні Парыскага Блёку з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня. Сьцьвердзіўшы скрайня абмежаваныя магчымасьці па чыста палітычнай лініі супрацоўніцтва Парыскага Блёку з Амэрыканскім Камітэтам, ён адзначыў, аднак, паважную ролю гэтай Кантактнай Камісіі, якую яна адыграла ў справе падтрымкі прадстаўнікоў нацыянальных цэнтраў, якія працуюць у Радыё Свабода – у сэньсе праграмна-ідэялягічнай накіраванасьці перадачаў нерасейскіх рэдакцыяў гэтага Радыя.

Ад выдавецкага сэктару Парыскага Блёку зрабілі справаздачу сп. Сьпірыдон Даўгаль і Алі Хан Кантэмір, як упаўнаважаныя Прэзыдыюмам дзеля выдаваньня часапісу Парыскага Блёку «Проблемс».

Сп. Даўгаль паінафармаваў Канфэрэнцыю, што выйшла 14 нумароў гэтага часапісу, і што ягоны тыраж, першы нумар якога складаў 5 тысяч паасобнікаў, дасягнуў ужо 10 тысяч. Такім чынам каля 100 тысяч паасобнікаў гэтага часапісу, які абыймае ў сярэднім па 70 балонак, было разаслана ўва ўсе канцы сьвету. Атрымана каля 2 тысяч прыхільных лістоў – водгукаў ад палітычных і культурных дзеячоў, што цікавяцца нашымі праблемамі.

Сп. Кантэмір паведаміў, што ўжо падрыхтаваны Прэзыдыюмам і ададзены ў друк адмысловы зборнік ў ангельскай мове аб народах Парыскага Блёку. Ён абыймае 130-140 балонак, і мае служыць малой «энцыкляпэдыяй» аб нашых народах. Там падаюцца інфармацыі аб гісторыі, культуры, вызвольным змаганьні й сучасным стане гэтых народаў.

Пасьля справаздачаў пачаўся абмен думкамі аб агульным міжнародным палажэньні й палажэньні нашых народаў. Выказваючыся на гэтую тэму, сп. Цынцадзэ зрабіў выснаў, што ня гледзячы на пэўнае заціішша на фронце псыхалягічнай вайны супраць бальшавізму ў заходнім дэмакратычным сьвеце, асабліва ў Вашынгтоне, ёсьць падставы ўважаць гэтае зьявішча часовым.

Прызнаньне Францыяй незалежнасьці Альжыру можна ўважаць завяршэньнем дэкалянізацыі былых заходніх каляніяльных імпэрыяў. Перад вольным сьветам цяпер нямінуча мусіць быць пастаўленае на парадак дня пытаньне дэкалянізацыі апошняй ў сьвеце – савецка-бальшавіцкай імпэрыі.

Спадар Мікола Левіцкі, старшыня Выканаўчага органу Украінскай Нацыянальнай Рады, дапаўняючы інфармацыі аб палітычных настроях у вольным сьвеце – на падставе сваіх уражаньняў із сваіх шматлікіх сустрэчаў зь дзяржаўнымі й грамадзкімі дзеячамі Эўропы, Амэрыкі й Канады, сьцьвердзіў, што ня гледзячы на наяўнасьць няспрыяльных для нас «вятроў» – ёсьць і «вятры» спрыяльныя. Таму Парыскі Блёк павінен дзеіць адначасова ў вабодвух кірунках: выкарыстоўваць спрыяльныя плыні і супрацьставіцца няспрыяльным.

Дэлегаты, якія прыбылі з Турэччыны, Каіру й наагул з Блізкага Ўсходу, запрапанавалі Канфэрэнцыі, каб наступны Прэзыдыюм Парыскага Блёку ў галіне свае вонкавае палітыкі падзяліў працу на два сэктары: прадстаўніком мусульманскіх народаў (Азэрбайджанцам, Паўночным Каўкасцам, Туркестанцам, Ідэль-Уралцам і Крымскім Татарам) даручыць праводзіць акцыю ад імя Парыскага Блёку сярод дзяржаўных народаў ісьлямскага сьвету, які цяпер мае паважны голас у сусьветнай палітыцы; Беларусам, Украінцам, Грузінам і Армянам – праводзіць акцыю сярод заходняга дэмакратычнага сьвету. Зразумела, усё гэта мусіць быць скаардынаванае Прэзыдыюмам.

Пасьля дыскусіяў над дакладамі й абмену думкамі аб агульнай сусьветнай сытуацыі й палажэньні на бацькаўшчынах нашых народаў, былі прыняты шэраг рэзалюцыяў (рэзалюцыя аб сусьветнай сытуацыі будзе пададзеная ў наступным нумары «Бацькаўшчыны»).

Між іншага, была прынятая таксама пастанова аб выдаваньні дублікату органу Парыскага Блёку «Проблемс» (які дасюль выходзіў у ангельскай мове) таксама і ў францускай мове.

Былому Прэзыдыюму быў прызнаны «абсолюторыюм» з падзякай за іхную працу. Пры перавыбарах, у склад Прэзыдыюму ўвайшлі ўсе старыя сябры з захаваньнем ранейшых функцыяў:

Прэзыдэнт М. Абрамчык, Старшыня;
Алі Хан Кантэмір — Заступнік Старшыні (Паўночны Каўказец);
Ной Цынцадзэ – сябра Прэзыдыюму (Грузія);
С. Самульян – Сакратар (Армянін).

Увечары 11 ліпеня Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня наладзіў прыняцьце дэлегатам Канфэрэнцыі, на якое былі запрошаныя таксама нямецкія і амэрыканскія палітычна-культурныя дзеячы, а таксама прадстаўнікі эміграцыі гэтак званых «сатэлітных» краінаў.

13 ліпеня Прэзыдыюм Парыскага Блёку наладзіў прэсавую канфэрэнцыю, на якую прыбылі карэспандэнты ад нямецкіх, амэрыканскіх і эміграцыйных газэтаў, а таксама рэпартэры ад Баварскага Радыя, амэрыканскага радыя для арміі, радыя «Вольная Эўропа» і Радыя «Свабода».

Яшчэ 11 ліпеня цэнтральнае нямецкае прэсавае агенцтва перадало камунікат для прэсавых агенцыяў усяго сьвету аб Канфэрэнцыі Парыскага Блёку, ягоных мэтах і заданьнях, а таксама аб складзе дэлегацыяў Канфэрэнцыі.

Баварскае Радыё ў сыботу, 14 ліпеня, прысьвяціла дзесяціхвілінную перадачу Канфэрэнцыі Парыскага Блёку, вельмі прыхільную да вызвольнага змаганьня нашых народаў. Аб Канфэрэнцыі Парыскала Блёку інфармавалі сваіх слухачоў таксама і ўсе рэдакцыі Радыя «Свабода», у тым ліку і расейская рэдакцыя.

**Прысутны**

## *Тэлеграмы*

На рукі прэзыдэнта Задзіночаных Штатаў Кэнэды была высланая тэлеграма наступнага зьместу:

**Ваша Эксцэленцыя,**

**Ад імя Канфэрэнцыі Лігі Вызваленьня Народаў СССР — Парыскага Блёку — (Армэнія, Азэрбайджан, Беларусь, Крым, Грузія, Ідэль-Урал, Казакі, Паўночны Каўказ, Туркестан, Украіна) вітаем Вас як кіраўніка вядучай дэмакратычнай дзяржавы Захаду і выказваем нашу ўпэўненасьць, што ў гэтым годзе таксама будзе праклямаваны Тыдзень Паняволеных Народаў, які мае вялізарнае псыхалягічнае зсачэньне ў імкненьнях нашых народаў да свабоды й незалежнасьці.**

**Прэзыдыюм Канфэрэнцыі Лігі**

☆

На імя прэзыдэнта Францускай Рэспублікі Дэ Голя была пераcланая тэлеграма такога зьместу:

**Ваша Эксцэленцыя,**

**Х-ая Канфэрэнцыя Лігі Вызваленьня Народаў СССР — Парыскага Блёку — (экзыльныя ўрады і нацыянальныя цэнтры Армэніі, Азэрбайджану, Беларусі, Грузіі, Крымскіх Татараў, Казакаў, Ідэль-Уралу, Паўночнага Каўказу, Туркестану і Украіны) выказваем Вам сваю глыбокую і сардэчную удзячнасьць за сымпатыі да нашых паняволеных народаў, выказаныя Вамі ў прамове 26 сакавіка. Мы перакананыя, што гэтыя Вашыя словы будуць нашым народам вялікай маральнай падтрымкай у іхным даўгім змаганьні за вызваленьне ад маскоўскай тыраніі.**

**Прэзыдыюм Канфэрэнцыі**

☆

Прэзыдэнту Альжырскага часовага ўраду Бэн Хэда была перасланая наступная тэлеграма:

**Эксцэленцыя,**

**Канфэрэнцыя Лігі Вызваленьня Народаў СССР (экзыльныя ўрады і нацыянальныя цэнтры Армэніі, Азэрбайджану, Беларусі, Грузіі, Казакаў, Крымскіх Татараў, Ідэль-Уралу, Паўночнага Каўказу, Туркестану і Украіны), што ад 40 год змагаюцца за аднаўленьне сваіх незалежных дзяржаваў, паняволеных маскоўскімі імпэрыялістымі, сардэчна вітае альжырскі народ з нагоды абвешчаньня ягонай незалежнасьці.**

**Прэзыдыюм Канфэрэнцыі**

*Вялікалцьвін*

# Як паўстаў назоў „Беларусь“

**(Працяг з папярэдніх нумароў)**

Гляньма, як ёсьць у іншых. Жыды на ўсім сьвеце ўжо тысячы год, каталіцкая духоўная ўлада ў Задзіночаных Гаспадарствах, у гэтым краю свабоды, старавepы ў Расіі і ў Беларусі забараняюць сваім вернікам жаніцца зь іншаверніцамі і выходзіць замуж за іншавернікаў. Прыклады можна было-б памножыць, і нідзе не ўважаюць гэтае забароны ня толькі за перасьледаваньне, але хоць-бы за найменшае абмежаньне свабоды людзёў іншай веры.

Я разгледзіў рэлігійныя дачыненьні ў задзіночанай Беларусі (у Вялікім Княстве Літоўскім) адно толькі, колькі гэта вымагалася, каб зьясьніць, ці залежала ад іх паўстаньне назову «Белая Русь»; дык, узьдзержуючыся ад выказаньня бяз довадаў свайго пагляду на гэтыя дачыненьні ў XVI а дальшых стагодзьдзях станаўко магу асьветчыць, што да канца XV стг. перасьледаваньня праваслаўных альбо обмежаньня грамадзкіх праваў іхных у нас ня было. А калі так, дык паўстаньне назову «Белая Русь» не залежыла ад перасьледаваньня праваслаўных, каторага ня было да канца XV стг., а назоў «Белая Русь» ужо быў.

### ЗАПРАЎДНЫЯ ПРЫЧЫНЫ ПАЎСТАНЬНЯ НАЗОВУ «БЕЛАЯ РУСЬ»

Цяпер разгледзім запраўдныя прычыны паўстаньня назову «Белая Русь». У кажным довадзе трэба выходзіць з таго й апірацца на тое, што напэўна ведама. У даным жа прыпадку ведама тое, што ані ў нацыянальным, ані ў палітычным значэньню ніколі наш народ ня зваў сам сябе і ня быў званы іншымі Русяй, Русінамі, рускім, ані звалася Бацькаўшчына ягоная Русяй, Рускай зямлёю. Русяй зваліся ўкраінскія Паляне і гэтак жа звалася іхная зямля — трыкутнік памеж Дняпром і яго правымі прытокамі Ірпеням і Росяй; з часам жа гэты назоў пашырыўся на ўсіх Украінцаў і зямлю іхную. Ні воднае плямя народу нашага ня мела назову «Русь»[2]). Нат Дзярвяне ня зваліся Русьсю, дарма, што на пачатку X стг. былі заваяваны Русяй і былі ў залежнасьці ад Рускага гаспадарства пасьлей, разам із паўднявымі Дрыгвічамі, будучы рускай «воласьцяй» да 1157 г.[3])

З пары Вялікага Княства Літоўскага захаваліся мілёны дакумэнтаў і ў ні водным ізь іх ніякая часьць нашага краю не названа Русяй.

Тэрміны «рускі», «Русін», каторaму адказавала зборнае імя «Русь» (зн. шмат «Русіноў») прышоў да нас у значэньню рэлігійным, бо хрысьціянства, як масавая зьява, быто прынята праз Русь зь Кіева. «Русінамі», «Русьсю», людзьмі «рускае веры» звалі ў нас увесь час хрысьцян усходняга абраду як праваслаўных, так і вуніятаў (да скасаваньня вуніі ў XIX стг.) і самы сябе яны гэтак звалі. У такім жа рэлігійным значэньню з тае ж прычыны прышоў гэты тэрмін да Ноўгараду й Маскоўшчыны. Адно Пётра I ў Маскоўшчыне загадаў тэрміны «Русь», «Россія» (грэцкая хорма слова «Русь»), «русскій» ужываць у значэньню нацыянальным. Але ў простага народу расійскага рэлігійнае значэньне слова «русскій» захавалася нат дагэтуль. Будучы ў часе першае сьветавае вайны ў Маскоўшчыне, я назіраў, што расійскія сяляне й мяшчане не завуць стараveраў рускімі, дыкжэ дзеля таго, што яны не праваславныя. Але. даволі Татарыну, нат ані нязналаму расейскае мовы, прыняць праваслаўе, як ён у вачох Расейцаў і самога сябе перастаець быць Татарынам і становіцца «рускім».

Калі ж ніколі ня звалі ў нас ані нашае зямлі, ані яе жыхараў Русяй, Русінамі, рускімі ў значэньню нацыянальным, дык не магло быць у гэтым значэньню й назоваў «Белая Русь», «Беларусь», «Беларус», прыметнік «беларускі». І запраўды сярод мілёнаў лістоў дакумэнтаў не знаходзім гэтага назову, як уставічнага, хоць бы коратка трываючага, тарнаванага да таго самага месца альбо да тых самых жыхараў, не знаходзім такога ў значэньню нацыянальным, палітычным ані нат у значэньню рэлігійным. Гэта знача, што ня быў гэта назоў у запраўдным значэньню гэтага слова, але названьне такое калі-ні-калі, вельмі рэдка сустрэлася як лётнае, яшчэ часьцей як эпітэт.

Што да захаду Бацькаўшчыны нашае, дык разгляданыя словы ані разу ня стрэліся ў лістох-паперах народу нашага, а стрэліся ў Палякоў (разы 2—3) і — як пазычэньне — у прускіх Немцаў.

Як добра зьясьніў проф. Ільлінскі, ужыты былі яны пад уплывам пашыраных на нашым захадзе геаграфічных назоваў з каранём **бел** (Белая, Бялянка, Белавежа, Беласток і інш.). Значыцца, што якісь Паляк, пачуўшы, што людзі нашыя завуць сябе Русінамі (у значэньню рэлігійным), а заразом ведаючы, што Русінамі ж (у значэньню нацыянальным і рэлігійным) завуцца Ўкраінцы, дзеля адрозьненьня, пад уплывам менаваных мясцовасьцяў, назваў нашых Беларусінамі.

Рэдка, але болей чымся на захадзе нашым стрэўся разгляданы назоў у «лістох» (паперах, дакумэнтах) Вялікага Княства Літоўскага ў дачыненьню да ўсходняе часьці нашае Бацькаўшчыны, а яшчэ шмат часьцей у Маскоўшчыне праз Маскалёўжа. Тут ён пачаў сустракацца ўжо тады, калі ня толькі Расіяй, але нат Масквою ня зваўся гэты край, а зваўся яшчэ Суздальшчынаю. Няма дзіва, што на ўсходзе ўжываўся раней і часьцей, бо меў ён тут значэньне эпітэту. Як даўно зьясьніў Тацішчаў а пасьлей і Ільлінскі паўстаў ён у Маскоўшчыне пад уплывам турска-татарскім. У народаў турска-татарскіх слова «белы» (ак) мае значэньне таксама «вольны», «славуты»»; дзеля таго «хан» вельмі часта лучыцца з эпітэтам «ак». Пад уплывам татарскім маскоўскія князі а цары пачалі дадаваць да тытулу свайго эпітэт «белы» («белый царь»). У Літве і ў Маскоўшчыне словы «Белая Русь» былі зьвязаныя із значэньням рэлігійным слова «Русь». Дык, калі ў пасольстве праваслаўных магнатаў беларускіх да папежа Сыкста IV ў 1476 г. быў і «князь Дзьмітры Вяземскі сын князя Кастанціна зь Белае Русі», то гэта значыла, што ён быў з пасярод праваслаўных Ліцьвіноў (Беларусаў). Выглядае, што з часам ды ўжо з гэтае пары некаторыя з памеж дзеячоў народу нашага усё болей а болей пераймаюць гэты эпітэт, відавочна, коб паказаць, што дыкжэ яны належаць да народу вольнага, славутага, а не нявольнікі маскоўскага князя. Дыкжэ дзеля таго, што назоў «Белая Русь» быў зьвязаны з рэлігійным значэньням слова «Русь», яго най часьцей і ўжывалі царкоўнікі ды ў дачыненьнях сваіх із заграніцаю. Гэта вымагалася і патрэбаю, калі хацелі ўжыць рэлігійнага тэрміну і заразом адзначыць прыналежнасьць сваю да царквы літоўскае (беларускае), а не да якое іншае, бо «рускай веры» былі ня толькі Беларусы, але таксама Ўкраінцы і Ноўгарадцы і Маскалі.

### МАСКВА ПРЫНОСЕ НАЗОЎ «БЕЛАЯ РУСЬ»

Дадаваньe калі-ні калі некаторымі адзінкамі з памеж дзеячоў народу нашага эпітэту «белы» да рэлігійнага назову «Русь» і пад. выкарыстаў маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч у вайну з намі 1654—1667 гг. Прыкідуючыся абароньнікам пра-

# Паўлюк Нілёнак і завяртанцы

«На нашым полі
Растуць бадылі, —
Ніхто іх ня поле,
Ня вырве зь зямлі»

Янка Купала

У беларускім фальклёры ёсьць багата прыказкаў аб манюках. Запраўды згадайце гэткія зь іх, як напрыклад — «Вось дык Дзяніс: прадае сабаку, а кажа, што ліс» або — «Ягнеша сем сёл абрэша і назад прычэша». Аднак тыя нашыя саматужныя Дзяніс зь Ягнешай хлусілі яшчэ за старадаўнія часы г. зв. фэадалізму, а таму ня вытрымліваюць аніякага параўнаньня з камуністычнымі брахунамі, узброенымі марксызмам-ленінізмам. Не дарма-ж паміж суродзічамі на чужыне нарадзілася, дый ад Амэрыкі да Аўстраліі пашырылася трапная прыказка — «Брэша, як завяртанец».

У № 613 завяртанскае клікушы «Голас радзімы» зьмешчаны чарговы артыкул, прызначаны Юрку Віцьбічу. Аўтар гэтага артыкулу — нейкі «інжынэр чалавечых душаў» С. Клімковіч — падаючы вялікія цытаты з мае аповесьці, надрукаванае ў № 2-3 час. «Полымя рэвалюцыі» за 1933 г. і з майго нарысу «Пра вельмі й вельмі блізкае (Новае аб Вяліскім паўстаньні 1919 г.)», зьмешчанага ў № 27 (511) нашае «Бацькаўшчыны» за 1960 г., прыходзіць да сумнага высnаву:

«Цяжка нават уявіць сабе, як павінен упасьці чалавек, каб адна і тая-ж рука пісала абодва гэтыя ўрыўкі»

— бо, маўляў, у «Полымі рэвалюцыі» Юрка Віцьбіч нібы характарызуе Паўлюка Нілёнка, як злачынцу, а вось затое ў «Бацькаўшчыне», як героя.

Перадусім трэба заўважыць, што С. Клімковіч наўмысьля прамоўчвае назоў гэтае мае аповесьці, аб якім у кніжцы:

«Беларуская Акадэмія Навук, Інстытут Мовазнаўства. Пісьменьнікі БССР аб рэформе правапіса беларускай мовы. Выд. Бел. Акад. Навук. Менск. 1934»,

на ейнай 19-й старонцы, тагачасны старшыня ССПБ (Саюза савецкіх пісьменьнікаў БССР) Андрэй Александровіч зусім слушна адзначыў:

«...але Віцьбіч абнадзейвае, дае пэрспектыву (лозунгам клерыкалаў і раз'юшаных яўрэйскіх нацыяналістаў), якая выказана ў самым загалоўку «Лшона Габоа Бійрушалайм», што на дрэўня-яўрэйскай мове абазначае «У будучым годзе ў Ерузалім».

У тэй-жа самай кніжцы, на стар. 83, папярэднік Александровіча на пасадзе старшыні ССПБ Міхась Клімковіч вельмі трапна дадае:

«Яшчэ большыя налёты нацыяналізму ў Віцьбіча. У свой час, як рэдактар яго кнігі «Лшона Габоа Бійрушалайм» я ўскрыў сіяніскую сутнасьць гэтай назвы, **ускрыў замілаваньне бандытам Нілёнкам** (падкрэсьліў Юр. Віцьбіч), жаль згінуўшай шляхты і ксяндзоўства», і г. д., і г. д.

Хіба ня сьветчыць усё гэтае аб пасьлядоўнасьці Юркі Віцьбіча ў дачыненьні да партызана Паўлюка Нілёнка і аб махлярстве завяртанцаў? Дарэчы, чытач здолее асабіста пераканацца ў гэтым, пазнаёміўшыся з маёй аповесьцяй «Лшона Габоа Бійрушалайм», як і з кніжкай, зь якой я цытую выказваньні Андрэя Александровіча й Міхася Клімковіча. Гэтыя выданьні ёсьць у Ньюёрскай Публічнай Бібліятэцы і ў адпаведных кніжніцах Лёндану, Парыжу, Рыму, Мадрыду ды іншых вялікіх гарадоў вольнага сьвету.

Маніць С. Клімковіч і далей, калі сьцьвярджае:

«Самі сяляне абясшкодзілі галаварэза. Родны брат Нілёнка, напаіўшы яго да няпрытомнасьці, зьвязаў, завёз у павет і здаў савецкім уладам».

А ў запраўднасьці — аднавясковец Паўлюка Нілёнка Ігнат Шманцар ня вытрываў чакісцкіх нялюдзкіх катаваньняў і дапамог ім спаймаць яго. Аднак усёроўна — уся вялікая вёска Вароніна Маклакоўскае воласьці Вяліскага павету, зь якое паходзіў Нілёнак, была пазьней цалкам — ад старых да малых сасланая ў Сібір, і ніхто з варонінцаў, разам з Ігнатам Шманцарам, адтуль да родных хатаў не вярнуўся.

Асабліва абураецца С. Клімковіч з тае прычыны, што «Віцьбіч не сароміцца цяпер прызнацца ў тым», што за часы вайны ў Вяліжы, на Пакроўскім полі, на братніх магілках блізу тысячы закатаваных бальшавікамі паўстанцаў, «паставіў у гонар іх і Нілёнка помнік за фашысцкія грошы». Ня толькі не саромлюся, але шчыра ганаруся гэтым. Аднак да сяньня шкадую, што не знайшоў магілкі Паўлюка Нілёнка. Ён растраляны не на Пакроўскім полі, а на беразе ручая Канеўца. Увесну шумны Каневец выкапаў зь яру ягоныя астанкі і аж на два кілямэтры працягнуў іх — навет пасьля сьмерці ня ўсьцішыўся бацька Нілёнак і зрабіў яшчэ адзін рэйс. А каб я знайшоў другую невядомую магілку Нілёнка, дык усклаў бы на яе кветкі ад імя нашага беларускага народу. Мне не пашанцавала ў гэтых пошуках, але затое ў сваіх творах я паставіў яму помнік, які бальшавікі зьнішчыць ня могуць, аб чым сьветчыць, між іншага, і пісаніна С. Клімковіча.

І прычым тут фашысцкія грошы, якія дарэчы маюць для нашага народу аднолькавую вартасьць з бальшавіцкімі? Фашыстым не занадта падабалася, калі падбітыя імі народы пачыналі згадваць аб сваіх паўстаньнях супраць усякае, якое-б там ні было ўлады. У скляпеньні райкому партыі я выпадкова знайшоў вялікі мэталёвы крыж, які савётчыкі скінулі з кумпалу гвалтам імі, наўсуперак волі вернікаў, зачыненага й зьбэшчанага вяліскага касьцёлу сьвятых апосталаў Пётры і Паўла. Гэты самы крыж я — Юрка Віцьбіч — паставіў на высокім кургане паміж братнімі могілкамі беларускіх сялянаў, замардаваных ленінскімі бандытамі, і відаць яго было за некалькі кілямэтраў.

У наступную нядзелю на гэтых адноўленых мной могілках адбылася вялікая агульная паніхіда з асьвячэньнем помніка. Сярод мноства людзей, што прыйшлі ўшанаваць памяць патрыётаў, мне асабліва кінулася ў вочы сялянка з жабрацкай торбай. Ёй было каля пяцідзесяці год, але глыбокія зморшчкі парэзалі ейны калісьці прыгожы славянскі твар. Ад сьлёзаў сацьмелі блакітныя вочы, гора скрывіла ейныя вусны, а нэндза сьхінула плечы.

Калі сьвятар агаласіў вечную памяць усім тут:

«убіеным, імена коіх,
Ты Господі, весі»

— жанчына ўскрыкнула, нібы параненая, упала на магільны грудок, і, абдымаючы яго рукамі, загаласіла:

О-ой, Міхаська, саколік мо-ой!
Ды ўстань спад сырой зямлі
Ды на Марылю сваю паглядзі...
О-ой, Міхаська, саколік мо-ой!
Ды цябе-ж злыя ворагі растралялі
Ды дзетак тваіх у Сібіры закатавалі...

У гэты момант тысячная грамада, як адзін чалавек апусьцілася на калені і як з адных магутных грудзёў вырвалася ды паплыла і над крывавым Пакроўскім полем, і здавалася, над усёй гаротнай Беларусяй ад Дзьвіны да Бугу:

Вечная памяць!

Нічога, акрамя пагарды, ня выклікае ў мяне закід С. Клімковіча:

«Віцьбіч заўсёды абыходзіць пытаньне аб сваіх ганебных уцёках ад помсты народа»

Ніхто больш ганебна не ўцякаў ад народнае помсты, як камуністыя ў пачатку вайны. Паказальна, што аўтамашына шкурніка Панцеляймона Панамарэнкі, якая імчалася з шалёнай хуткасьцяй на ўсход, 6 кілямэтраў ад Менску наскочыла на чатырохгадовую дзяўчынку Насту Бульбянік. І гэты тагачасны шасьціпудовы ўладар БССР, ахоплены жывёльным жахам, ня затрымаўся і навет ня зірнуў на забітую ім маленькую Беларуску. Я ня блытаю народ з камуністычнымі крывасмокамі і на сабе асабіста за часы вайны яшчэ раз пераканаўся, якая паміж імі прорва.

У лютым 1942 г. да Вяліжу дакаціўся Калінінскі фронт савецкае арміі. Камісар палка, які захапіў прадмесьцьце гораду — Віцебскую Слабаду, дзе я жыў, пасьля кароткага допыту, загадаў мяне і шэсьць іншых вяліжанаў растраляць, але гэтаму рашуча супрацівіўся камандзір палка. Пяць дзён мы знаходзіліся пад арыштам, пакуль нас ня вызваліў той-жа камандзір. Ад жаўнераў, што нас вартавалі, мы не пачулі ніводнага абразьлівага слова, яны дзяліліся з намі сваёй пайкай хлеба, частавалі махоркай і абаранілі ад начное спробы камсамольцаў выканаць загад камісара.

— Мы франтавікі, а ня турэмнікі, — гаварылі яны нам, — Мы змагаемся з Фрыцамі, а ня зь Іванамі. А вось за нашай сьпіной, у бліжэйшым тыле, можа за якія 50 кілямэтраў адсюль, паволі пасоўваюцца за фронтам карнікі з НКВД. Ад іх аніякае літасьці не чакайце. Яны родных бацьку з маткай за ногі на аднэй асіне павесяць. Дык чаму вы засталіся? На што спадзяваліся?

Калі Віцебскую Слабаду зноў захапілі Немцы, дык мы, што цудам засталіся жывымі, а ў тым ліку і Юрка Віцьбіч, пасьля колькіх год безхацімнага блуканьня, урэшце-рэштаў дасталіся да вольнага сьвету. І мне хочацца прыгадаць чытачам радкі з майго твору, зьмешчанага ў альманаху «Ля чужых берагоў»:

«Вышэй галаву, Дубавец! Мацней адбівай крок! Пакажы гэтым узброеным нявольнікам, як паміраюць старыя вяліскія паўстанцы».

Каб яшчэ больш уразіць Ю. Віцьбіча, С. Клімковіч падае вялікую цытату з мае аповесьці «Ціхая Руба», зьмешчанае ў № 1 час. «Полымя рэвалюцыі» за 1932 г. Зразумела, ён ня згадвае пра тое, што гэтым творам узвышэнца, а ня сябры ССПБ пачаўся новы й адзіны тады літаратурны часапіс. Затое ён сьцьвярджае, што сьмех галоўнага героя гэтае аповесьці плытагона дзеда Самуся мае дачыненьне... да мяне, як да палітычнага эмігранта. А між тым я акурат, як мой дзед Самусь, сьмяюся з гэткіх заўвагаў С. Клімковіча на мой адрас, як — «сьлізкая істота», «ачмурэлы графаман», «двурушны мярзотнік», «недабіты фашысцкі вужака Віцьбіч, якога песьня даўно сьпета» і г. д. і г, д. аж да вяроўкі, што прэзэнтуецца мне ў сумежным зь ягоным бяздапаможным артыкулам вучнёўскім «сьцішку», аўтар якога — А. Будзейка — заслугоўвае хіба толькі лазіны. І ці ня лепш ужо згадаць сьмех мае Ірмы Лаймінг з апавяданьня «Сьмерць Ірмы Лаймінг» («Узвышша») № 2 за 1931 г.):

«А ім здаецца, што я спачуваю іх сацыялістычнаму будаўніцтву, Ха-ха-ха!»

Песьня Юркі Віцьбіча даўно сьпетая? Не, стакроць не! Навошта гэтак відавочна для ўсіх супярэчыць самым сабе? Пэўна-ж яна яшчэ ня сьпетая, калі праз два нумары на трэйці свае апантанае газэціны згадваюць зь пенай на вуснах байструкі Масквы — завяртанцы пра маё мінулае й сучаснае. А калі я й памру на чужыне, дык і тады, як мой улюбёны герой Паўлюк Нілёнак, накіруюся ў пасьмяротны рэйс — з маіх твораў дазнаюцца суродзічы, як трэба любіць сваю адзіную пад сонцам Беларусь і дарэшты, да скону жыцьця, да апошняга ўздыху, ненавідзець ейнага сьмяротнага й адвечнага ворага — Маскву — ды з пагардай ставіцца да ейных халуёў — бэсэсэраўскіх калябарантаў.

А, між іншым, можа мой дзед Самусь сьмяецца таксама з нататкі «Пісменнік і публіцыст», надрукаванае на апошняй старонцы таго самага «Голасу радзімы», у якім зьмешчаны артыкул пра мяне? Магчыма, што й так. Гэтая бессаромная самарэкляма прысьвечана 50-цігодзьдзю Леаніда Прокшы, г. зн. рэдактарам газэціны самому сабе, і да яе ім-жа далучаны ягоны партрэт. Што — што, але партрэт аж надзвычай характэрны. Сядзіць з шаксьпіраўскім выглядам, бадай паводля Маякоўскага, «кучаравы Будзейка» і псуе шматпакутную паперу. Вось ужо запраўды — рак ня рыба, кажан ня птушка і Прокша ня пісьменьнік.

Пра нязломнага Паўлюка Нілёнка, які за момант перад сьмерцяй плюнуў у вочы чэкістаму, яшчэ за ягонае жыцьцё склалі вольналюбныя вяліжане песьню:

«У Вяліжы дождж ідзе,
А ў Віцебску сьлізка
Хавайцеся бальшавікі,
Бо Нілёнак блізка».

Што тычыцца убогіх пісакаў Прокшы-Будзейкі, С. Клімковіча й розных іншых завяртанцаў, дык пэўна іх меў на ўвазе пісьменьнік, калі пісаў:

«А вы на зямлі пражывеце
Падобна сьляпым чарвякам
Народ вас нічым не згадае
І песьню прысьвеціць ня вам».

**Юрка Віцьбіч**

## Зь Беларускага жыцьця

### РЫХТУЕЦЦА ПЯТАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

20 чэрвеня ў Тароньце адбылося пашыранае паседжаньне Галоўнае Управы ЗБК і ўсяго актыву таронцкае беларускае калёніі. Абмяркоўвалі праблемы, зьвязаныя з 5-й Сустрэчай Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Дагэтуль Управа ЗБК і БАЗА ўзгоднілі, што Сустрэча мае адбыцца ў Таронце ў днях ад 1 да 3 верасьня сёлета (канцоўка тыдня Лейбар дэй) пад лёзунгам «Беларусь — ахвяра маскоўска-камуністычнага каляніялізму». Два асноўныя пункты праграмы — баль у сыботу 1-га верасьня і палітычна-мастацкі вечар, прысьвечаны пытаньням маскоўска-камуністычнага каляніялізму ў Беларусі а таксама Купалу й Коласу з нагоды 80-х угодкаў іхнага нараджэньня ў нядзелю 2-га верасьня, маюць адбыцца ў нанятых вялікіх залях у Інтэрнацыянальным Інстытуце на Каледж Стрыт.

Управа ЗБК і БАЗА маюць у недалёкай будучыні падаць да ведама узгодненую праграму Сустрэчы.

**М. К-р**

васлаўя, ён даў сабе тытул рэлігійнага зьместу «цар Вялікае і Малая і Белыя Росіі» і нашу Бацькаўшчыну назваў «Белой Росіей». Ужываньне тады гэтага назову абмежылася царскім дваром і блізкімі да яго ды заразом часам маскоўскай акупацы нашага краю. У часе маскоўскае акупацы маглі й некаторыя з нашых людзёў у дачыненьнях із маскоўскім урадам і маскоўскай акупацыйнай уладаю ўжываць гэтага назову.

Назоў «Белая Русь» быў адноўлены (калі можна казаць праз аднаўленьне таго, чаго звычайна ня было) расейскім урадам просьле першага падзелу нашае Бацькаўшчыны ў 1772 г., калі землі гэтага падзелу адзяржалі адміністрацыйны назоў «Белорусских губерний». І просьле гэтага ўжывалі яго адно расейскія дзейнікі ўрадовыя ды толькі да гэтыі губэрняў.

### ЗА АДНОЎЛЕНАЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў 1812 Г.

Пры аднаўленьню незалежнасьці ў 1812 г. пры помачы Напалеона былі утвораны два гаспадарствы нашага народу — адно пад назовам «Літва» складалася зь Беласточчыны, Гарадзеншчыны, Віленшчыны а Меншчыны; другое пад назовам «Беларусь» абыймала Магілеўшчыну а Віцебшчыну. Назоў «Беларусь» другога гаспадарства ня быў падсунены Напалеону людзьмі нашымі, бо яны былі за тое, каб усе вывальненыя ад Масквы нашы землі складалі адно гаспадарства з традыцыйным назовам «Літва». Напалеон жа ня мог прыдаваць якога-колечы значэньня назову другога гаспадарства, бо ў плянах ягоных яно было часовым — на прыпадак компраміснага заладжаньня справы з Маскою мела быць ёй уступлена, пры большай жа перамозе бязь ніякае параказы злучылася б зь Літвою пад яе назовам. Дзеля таго Напалеон узяў той назоў, што ўжо быў, як адміністрацыйны, даны гэным землям макоўскім урадам.

### АД 1812 Г. ДА «НАШАЕ НІВЫ»

Просьле паўстаньня 1863 г. ўрадовы русыфікацыйны націск на край наш надзвычайна ўзмоцніўся. У дачыненьню з урадамі (урадавымі ўстановамі) было забаронена званьне нас «Літвою», «Ліцьвінамі». Не зважаючы на гэта, назоў «Беларусь», «Беларусы» ня прымаўся. Адно часьць інтэлігенцыі пад расейскім уплывам ужывала яго. У 1882 г. Расеяц С. Максімаў, апісуючы Смаленшчыну, пісаў: «Назоў «Беларус» штучны, кніжны і ўрадовы. Самы сябе патомкі Крывічоў пад гэтым імям ня знаюць» ((Белоруская Смоленшчина, б. 439). Найболей пашыраным у XIX стг. да канца яго заставаўся назоў «Літва», «Ліцьвін». Наступное што да пашырэньня месца займалі назовы мясцовыя — Псковіч, Смалянін, Палеха (у Калускай а Арлоўскай губ.). Назоў «Палесьсе» быў захаваўшыся ад старавечча. Меў значэньне мясцовае на нашым усходзе (там, ідзе Палехі) і на паўдні і — ў значэньню шырэшым — агульна-нацыянальнае. Увесь край наш Палесьсям звалі найболей суседзі нашыя, асабліва Расейцы. Тое самае, што праз «Палесьсе», даводзіцца сказаць праз назоў «Паляшукі» як назоў народу; меў ён значэньне мясцовае на паўднявым Палесьсю і ў значэньню шыршым быў назовам агульна-нацыянальным.

### ЗА «НАШАЕ НІВЫ» І ПАСЬЛЕЙ

Гэтак было, калі ў 1906 г. назоў «Беларусь», «Беларусы» пачала пашыраць «Наша Ніва»: не лягкая была гэта справа. У 1910 г. я пераканаўся, што нійдзе народныя масы ня звалі сябе гэтым імям. Возьніца была адно ў тым, што ў вадных мясцовасьцях людзі нешы, калі іх назваць, згаджаліся з гэтым назовам, у другіх не прызнаваліся да яго. «Наша Ніва», адылі, да восені 1915 г., зрабіла шмат дзеля пашырэньня назову «Беларусы». Далей ён пашыраўся прагалашэньнем пад гэтым назовам Беларускае Народнае Рэспублікі, яшчэ пасьлей — Савецкай Беларусяй.

### ШТО Ж ДАЛЕЙ?

Пашырыўшы чужы назоў нам «Беларусы», мы ўсё болей а болей усьведамляем сабе шкоднасьць яго, асабліва ў працы на чужыне. Бадай усе дзейныя з памеж нас, каторым баліць сэрца за свой народ, пераканаліся, што, ужываючы гэтага назову, шкодзім свайму народу і памагаем ягоным непрыяцелям. Нічога не мяняе, калі не перакладаем часткі «бел» гэтага назову, бо справа ня ў «бел», а ў «рус». Ведаючы ці ня ведаючы, што знача «бел» (е даведацца ня цяжка), нас подле назову ўважаюць за прычэпку да Расейцаў, або проста Расейцаў. Таксама не поможа калі замест -рус- ужываць за -рут-, бо даведаюцца, што гэта тое самае і ня будзе згоды з хормаю таго ж назову ў мове нашай. Апрача таго, ня будзьма наіўнымі: ня думайма, што чужнікі самы ня ўзумеюць зрабіць этымалёгічнага перакладу на сваю мову слова «Беларус».

Мусіць прыйсьці да зьмены назову «Беларус» на назоў «Крывіч» альбо «Ліцьвін». З усяго ўжо выглядае, што перавага будзе за назовам «Ліцьвін», «Літва». Каб жа нас не ўважалі за Жмуйдзіноў, каторыя, дзякуючы Расейцам, прысабечылі сабе наш назоў, трэба назоў «Літва», «Ліцьвін» ужываць у хорме «Вялікая Літва», «Вялікаліцьвін». Ведама, жывучы вонках роднага краю, ды назову яго ня зьменім; але прыгатуем грунт да зьмены і, ужываючы праўдзівы назоў побач із хвальшывым, пакажам сьвету, что, апрача назову, каторы пярэча наша апрычонасьці, маем назоў, што сьветча праз нашу нацыянальную апрычонасьць.[4])

---

[2]) Ня толькі паўночная а паўночна-ўсходняя часьць княства Северскага ня звалася Русьсю, як цьвердзіць савецкі гісторык Насонаў (гл. арт. «Руская зямля» Ч. Будзькі у № 14–15 (549-550) «Бацькаўшчыны», б. 7). але й ніякая часьць Севершчыны Русьсю ня звалася. Прыкладам: «Он пошел к брату (Усеваладу Альговічу, князю Кіеўскаму) в Русь із Стародуба (северскага) (Багалей — Іст. Северской землі, б. 195). Рускім імям розьняцца кіеўскія князі ад чарнігаўскіх: «И прийде ту вся земля половецька и вси их князи, а из Киева князь Мстислав со всею силою, Володимер Рюрикович с Черниговци, и вси князи рустии и вси князи черниговски (Траецкі летапіс, б. 217.).

[3]) Дзеля таго, адылі, што княства Тураўска-Пінскае (гаспадарства паўночных Дзярвян і паўднявых Дрыгвічоў) было, да 1157 г., кіеўскай або накш рускай воласьцяй, маглі суседнія Дрыгвічы-Палачане зваць пагранічную зь імі часьць гэтага княства Русяй з гледзішча гаспадарствавае прыналежнасьці (але няма ведама, ці звалі гэтак). Падобныя прыпадкі звычайныя ў гісторыі. Прыкладам, па прылучэньню Грэцыі да Рыму, усходнія яе суседзі пачалі зваць яе Рымам, дарма што самы Грэкі, як і ўперад, звалі сібе Гэленамі, а край свой Гэлядаю. Званьне Грэцыі Рымам, прыкладам ув Арабаў у хорме «Рум», заставалася і ў тым часе, калі Грэцыя сталася незалежнай. І цяпер Арабове пішуць, што яны заваявалі Палястыну ў «Руму»; заваявалі ж не у Візантыі, гаспадарства грэцкага.

[4]) Добра робяць тыя, што завуць, нажаль толькі ў гістарычнёх артыкулах, наш народ «Літвою», «літоўскім». Пакуль, адылі, у нас ня ужываюць назову «Літва» ў жыццю штодзенным, трэба зьясьняць яго тады-сяды ў дужках назовам «Беларус»; бяз гэтага» ё даймо чагось чужога. Хорма «вялікаліцьвін» меней вымагала б такога зьясьненьня, але й зь ёй якісь час безь зьясьненьня абыйсьціся нельга будзе.

# Ліст у Рэдакцыю

Высокапаважаны Рэдактар!

У сувязі з артыкулам П. Урбана «Новае хвальшаваньне гісторыі пачынаецца» («Бацькаўшчына» № 10) я хацеў-бы выказаць тут некалькі заўвагаў.

П. Урбан піша:

«Першапачатковай вэрсіяй гэтае легэнды (аб Рагнедзе) акадэмік Шахматаў прызнаў вэрсію Лаўрэнцеўскага летапісу, запісаную пад 1128 годам».

«Частка разгледжанае вэрсіі даслоўна трапіла й у ,Повесть временных лет' пад 980 годам».

Вось-жа, няпраўдай ёсьць, што частка лягенды аб Рагнедзе (г. зн. першая палова яе – паход на Полацак) трапіла ў «Повесть временных лет» — «даслоўна». Бо калі-б запраўды яна была паўторана даслоўна г. зн. калі-б летапісец (ці лепш кажучы — той, хто перарабляў «повесьць»), уціскаючы легендарны тэкст у Пракрустравы ложак летапісу, не парабіў адпаведных зьменаў, дык на якой тады аснове акадэмік Шахматаў мог-бы прызнаць вэрсію 1128 году ранейшай ад вэрсіі 980 году? Хутчэй было-б наадварот. Але якраз таму, што лягенда 1128 году даслоўна пад 980 годам паўторана ня была (у вэрсіі 980 году, напрыклад, апушчаны эпізод гвалту Валадзімера над Рагнедай: «І повеле Добрыня Володімеру быті с Рогнедью пред отцем ея и матерью; по том же убі отца ея и матерь»), а таксама дзякуючы таму, што, штучна ўціскаючы легендарны тэкст у летапіс, той, хто гэта рабіў, зрабіў гэта даволі «папартацку», мы й маем сяганьня магчымасьць ня толькі выкрыць, што летапісны запіс 980 году (паход Валадзімера на Полацк) зьяўляецца ня чым іншым, як пераробкай лягенды аб Рагнедзе з 1128 году, але таксама давесьці, што гэтая частка лягенды аб Рагнедзе ў вытоках сваіх сягае т. зв. Корсунскай лягенды. «Пры взятіі Корсуні — піша Ліхачоў — Владімір бесчестіт дочь корсунского князя на глазах у родітелей, а затем убівает і корсунского князя і княгіню»).

(Н. Гудзі: «Судя по тому, что эта версія (з 1128 г.) о Владіміре і Рогнеде чітается лішь в общерусском своде, она вознікла не ранее XIV века. В основе обеіх этіх очень поэтіческіх летопісных версій лежіт, несомненно, дружінное эпіческое преданіе. Оні находят себе параллелі в северных побывальщінах і русскіх і украінскіх сказках». — Історія древней русской літературы, Масква 1953, б. 67).

(Д. Ліхачоў: «Вне сомненія связь тмутараканской по своему проісхожденію Корсунской легенды с преданіем о сватовстве Владіміра к Рогнеде через Добрыню. Тмутараканское проісхожденіе «Корсунской легенды» о крещеніі Владіміра І Святославіча доказано В. Л. Комаровічем. Связь эта падробно прослежена іccледованіем Н. Серебрянского («Древне-русскіе княжескіе житія») и не вызывают сомнений». — «Устные летопісі» в составе Повесті временных лет, ИЗ № 17, Масква 1945, б. 201–224).

(Г. Барац: «В первом отделе своей работы (см. журнал «Украіна» за 1907 г., іюнь, с. 314—346) я доказывал і, думаю, доказал, что летопісный разсказ о походе Владіміра на Полоцк і насільственном завладеніі Рогнедою, почті тождественный с разсказом Житія особаго состава о походе Владіміра на Корсунь і добываніі сілою дочері корсунского князя, вознік не под вліяніем мотівов народного творчества, а под прямым воздействіем біблійско-агадіческіх сказаній». — Біблійско-Агадическія Параллелі к летопісным сказаніям о Владіміре Святом, Кіеў 1908).

П. Урбан далей піша:

«Як падае «Повесть временных лет», Ізяслаў памёр у 1001 годзе, г. зн. маючы ня больш за 20 год, калі прыняць найранейшы год нараджэньня 980. Ён, быццам-бы, пакінуў двух сыноў: Усяслава й Брачыслава, значыцца зусім маленькіх, калі яны наагул маглі быць у Ізяслава. Аднак гэтых «заслужаных малютак» (Усяслаў памёр у 1003 годзе) летапісец знайшоў патрэбу запісаць у хроніку, ня ведаючы, адначасова, калі й дзе прыняў хрышчэньне Уладзімер. Тут можа быць толькі адно із двух тлумачэньняў: або Ізяслаў з «сынамі» штучна падганяўся пад уладзімераўскі «падбой» Полацку, або Ізяслаў з сынам (братам) Усяславам былі ўжо добра зданыя князі й магчыма былі тымі «забітымі» сынамі Рогвалода».

Папершае — увесь гэты абзац такі заблытаны й нелягічны, што я нават ня маю ахвоты прабаваць яго разблытваць (зазначу толькі ў дужках, што гіранічнае выражэньне «заслужаныя малюткі» калі й можна да каго застасаваць, дык хіба-ж не да Усяслава і Брачыслава, але да Ізяслава і Усяслава, целы якіх — як першых хрысьціянскіх князёў — былі ў 1007 годзе пахаваныя Брачыславам у новазбудаванай царкве Сьв. Багародзіцы ў Полацку. А наагул аб «заслужаных малютках» і аб тым, што летапісец быццам «падганяў Ізяслава з «сынамі» пад уладзімераўскі падбой Полацку» — гаварыць не даводзіцца, бо, як і сам П. Урбан прызнае, абзац аб падбоі Полацку быў уціснуты у «Повесьць» не летапісцам, г. зн. не аўтарам «Повесьці», але пазьнейшымі перапішчыкамі).

Падругое — калі кіеўскі летапісец і мог ня ведаць такой вельмі важнай рэчы, як «калі й дзе прыняў хрышчэньне Уладзімер», (бо ад часоў гэтага хрышчэньня мінула нямала часу і розныя людзі аб гэтым гаварылі розна: «Се ж не сведуще ні право глаголють, яко крестілся в Киеве, иніі же реша в Васілеве, друзіі ж інако скажуть»), аднак дакладныя даты сьмерці нашых першых хрысьціянскіх князёў кіеўскі летапісец мог усё-ж ведаць, бо тут ён апіраўся не на сумлеўную людзкую памяць, але на царкоўныя запісы. А запісы гэтыя, калі йдзе мова аб полацкіх князёх — маглі быць зроблены ў кіеўскіх цэрквах хаця-б таму, што Ўсяслаў Чарадзей быў нейкі час кіеўскім князем і з увагі на гэта абавязкам кіеўскага духавенства было маліцца за душы ягоных продкаў. (Акадэмік Шахматаў уважаў, што гэтыя даты летапісец браў з «княжеского помяніка», а Данілевіч — з «пасхальных табліц»).

Калі гісторыкі гавораць, што даты сьмерці Ізяслава й Усяслава зьяўляюцца пэўнымі (і гэтая пэўнасьць дазваляе нам якраз карыгаваць дату нараджэньня Ізяслава, выведзеную на аснове лягенды аб Рагнедзе), дык гэтага нельга сказаць аб даце сьмерці легендарнай Рагнеды. У «Повесті временных лет» чытаем:

«В лето 6506 (1000). Преставіся Малфрідь. В то же лето преставіся Рогнедь, маті Ярославля».

Хто такая была Малфрыда, летапісец ужо ня ведаў (а яна якраз і магла быць жонкай Валадзімера), што лішні яшчэ раз паказвае, як мала ў часе пісаньня «Повесьці» у Кіеве ўжо ведалі аб часох Валадзімера. Прышыўшы-ж да гэтай гістарычнай, хоць і ня ведамай сабе, Малфрыды легендарную Рагнеду, летапісцу ў выніку ўдалося ня столькі знайсьці для Рагнеды дату сьмерці, колькі самую сьмерць, як гістарычнай асобы. А гэтая забытая Малфрыда — гіроніяй лёсу — якраз і магла быць маткай Яраслава.

П. Урбан далей піша:

«У Цьверскую хроніку трапіла трэйцяя вэрсія лягенды пра Рагнеду, якая гаворыць, што пасьля свайго хрышчэньня Уладзімер наважыўся выдаць Рагнеду замуж за аднаго з сваіх баяраў. Рагнеда адкінула гэтую прапанову, і як «добрая хрысьціянка» пры такой-жа «хрысьціянскай» парадзе свайго «бязногага» сына Яраслава пастрыглася ў манашкі».

Вось-жа, выражэньне «бязногі» тут зусім не на месцы. Яраслаў, як ведаем з летапісу, быў не «бязногім» але кульгавым, у лягендзе-ж аб Рагнедзе чытаем::

«Сын же ея Ярославль седяше у нея, бе бо естеством таковь от рожения»; і далей: «І от сего словесы Ярославль вста на ногу своего и хождааше,, а прежде бо бе не ходіл».

Лягенда аб Рагнедзе, як бачым, хоча нас пераканаць, што Яраслаў быццам у маладасьці быў калекам і ня мог хадзіць. Аб тым, што аўтар гэтай лягенды чуў звон, ды ня знаў дзе ён, нядаўна мелі нагоду пераканацца ўкраінскія лекары, заглянуўшы ў магілу Яраслава. Пасьля дэтальнай аналізы Яраслаўлевых касьцей, яны асьветчылі, што няма адзнакаў, каб Яраслаў у маладосьці быў калекам, затое ёсьць пацьверджаньне, што ў старэйшым веку ён быў ранены ў нагу й кульгаў. Інакш кажучы, на аснове гэтай доктарскай экспэртызы, мы яшчэ раз пераконваемся, што лягенда аб Рагнедзе — гэта нічога іншага, як «ліпа», аб чым было ведама і раней, хоць ня ўсімі гісторыкамі прызнавалася, што праўда — не з навуковых, але палітычных меркаваньняў.

Гледзішча расейскіх гісторыкаў на справу значэньня лягенды аб Рагнедзе для расейскага імпэрыялізму найбольш яскрава выказаў маскоўскі прафэсар М. Любаўскі:

«Владіміру Святославічу в конце концов удалось втянуть Полоцк в орбіту русской государственності. Он посаділ в Полоцке сына своего Изяслава, рожденнаго от дочері Рогвольда Рогнеды. — Но как этот Изяслав, так и его потомки нікак не могли примкнуть к князьям Кіевскім і установіть с ними добрыя братскія и союзническія отношенія».

Як бачым, расейскім казённым гісторыкам лягенда аб Рагнедзе патрэбная на тое, каб пры помачы яе — хоць і наўсуперак гістарычнай праўдзе — магчы цьвердзіць, што рускаму князю Валадзімеру «в конце концов удалось втянуть Полоцк в орбіту русской государственності», і каб пасьля гэтага спакойна ўжо — і не аглядаючыся на гістарычную праўду — глядзець на гісторыю крывічоў як на складовую частку рускай і расейскай гісторыі, называючы крывіцкую дзяржаву «Полацкай Русяй». На мой погляд дзеля гэтага, расейская гісторыяграфія, як доўга яна будзе служкай расейскага імпэрыялізму, ніколі не зрачэцца Рагнеды, бо як доўга ў гісторыяграфіі будзе паношыцца «культ Рагнеды», так доўга маскалём і іхным спадарожнікам будзе лёгка нас ашукваць, што «Белорусское племя в большей части ізжітаго ім времені не имело своей собственной государственности и его історія поэтому есть преімущественно історія племені і особой разновідності національной русской культуры». (Праф. М. Любаўскі «Основные моменты історіи Белорусіі», рэфэрат чытаны ў Беларускім Навукова-Культурным Таварыстве ў Маскве ў 1918 годзе).

На заканчэньне я хацеў-бы яшчэ зазначыць, што хоць лягенда аб Рагнедзе і выдумана чужынцамі і сяганьня зьяўляецца ня чым іншым, як маскоўскім канём у беларускай Трої, аднак імёны як Рагвалода так і Рагнеды, як такія, зьяўляюцца ўсё-ж аўтэнтычнымі, г. зн. што ў часе тварэньня гэтай лягенды імёны гэтыя былі у нас даволі пашыранымі. (Аб тым-жа, што ў скандынаўскіх сагах Рагвалод і Рагнеда названы быццам Рагнвальдам і Рагнгэйдай, шкада і гаварыць, бо такіх саг ніхто ня ведае, затое агульнаведамым зьяўляецца той палец, з якога гэта ўсё высcана).

З пашанай

**Часлаў Будзька**

# Кангрэс эмігрантаў у Рыме

10 год таму выйшла ў Рыме гэтак званая Апостальская Канстытуцыя пад назовам «Перасяленская сям'я». Гэтым дакумантам Папа Піюс XII хацеў уладзіць духоўную абслугу для блізу 50 мільёнаў эмігрантаў, якія з палітычных ці эканамічных прычынаў былі змушаныя пакінуць сваю Бацькаўшчыну і шукаць у сьвеце прытулку і заробку.

Былі зарганізаваныя гэтак званыя «Душпастырствы» якія цяпер усюды прызнаныя і праводзяць сваю працу сярод эміграцыі. Пяць такіх душпастырскіх місіяў працуе і сярод беларускай эміграцыі.

«Высокая Рада для Эміграцыі» пры Кансысторыяльнай Кангрэгацыі ў Рыме, дзе ёсьць і беларускае прадстаўніцтва, арганізуе сёлета ад 3 да 7 жнівеня **Міжнароднае паломніцтва эмігрантаў у Рым.** Заклікаем і беларускіх эмігрантаў да ўдзелу ў гэтым Паломніцтве.

Праграма Паломніцтва:

1. Пантыфікальная Багаслужба ў Базыліцы Сьв. Пятра;

2. Адмысловая супольная аўдыенцыя ў Сьв. Айца Папы Яна XXII;

3. Акадэмія ў гонар дзесяцігодзьдзя Апостольскай Канстытуцыі «Перасяленская сям'я», дзе будуць выступаць прадстаўніцтвы кажнай нацыі;

4. Зьведаньне Катакомбаў і чатырох галоўных Базылікаў ды іншых старажытных памятак Рыму.

У арганізаваных групах можна атрымаць зьніжкі на пераезд да Рыму. Паадзіночныя Беларусы могуць далучацца да іншых нацыянальных групаў. Кажная дыяцэзыя мае адмысловую дапамаговую арганізацыю.

Вось важнейшыя адрасы Камітэтаў Паломніцтва:

Бэльгія:
Rev. mo Mons. Emile Dejardin
Segretario Generale del Pellegrin.
127 rue la Voi — Bruxelles 1

Францыя:
S. Ecc. Mons. Jean Rupp
Direttore delle Opere di Immigratione
181 rue de la Pompe — Paris 16

Нямеччына:
Mons. Alberto Buttner
Beethovenstr. 14 — Buel, Bonn.

Ангельшчына:
S. Exc. Mons. Edoardo Ellis
Bishop's House, The Park — Nottingham

ЗША:
Rev. mo P. Cesare Donanzan PSSC
O. L. of. Pompeo Rectory
25 Carmine Street, New York 14, N. Y.
Rev. mo P. Luigi Donanzan PSSC
St. Michal's Chrch
2325 W. 24th. Place, Chicago 8, Illin.

Канада:
Rev. mo P. Giovanni Triacca PSSC
Missione Cattolica Italiana
2875 Rue Sauve Est., Montreal 12, Que.

Да гэтых камітэтаў трэба зварочвацца з просьбай узяць удзел у Паломніцтве. На месцы-ж у Рыме просьба адразу-ж зарэгістравацца ў беларускім прадстаўніцтве:

Mons. Pietro Tatarynovič,
Via Camillucia 24

**Монс. П. Татарыновіч**

## Зь беларускага жыцьця

### ПРЫЕМНАЕ З КАРЫСНЫМ

Спатканьні Беларусаў Лёндану з Дэтройтам ужо ўвайшлі ў традыцыю. У гэтым годзе адылі такое спатканьне прыняло іншую форму, дзякуючы спадарству Шустам. Зь іхнае ініцыятывы быў наладжаны пікнік над возерам Іры ў Рандо Парк. Шусты падрыхтавалі харчы на беларускі манер і, пры добрым гаспадараньні пікнік меў вясёлы характар. Купаньне, сонца наперамешку з дажджом, сьвежае паветра, а пасьля й танцы ды песьні запоўнілі цэлы дзень. Пад добры настрой сп. Сажыч зь Людай Рагуля абыйшлі ўсіх прысутных, каб разьлічыцца за пачастунак. Разьлік гэты быў ў форме ахвяраў на прыход БАПЦ ў Тароньце. Такім чынам, пасьля адлічэньня выдатку, сабралі 50 дал. і перадалі а. Мацукевічу. Трэба адцеміць, што сп-р Шуст уклаў найбольш працы і яму з жонкай належыцца ад усіх удзельнікаў шчырая падзяка. Такія спатканьні вельмі карысныя. Людзі забываюцца аб штодзённай саладусе, а пры тым робіцца й добрая грамадзкая справа.

**Л. М.**

### СКОНЧЫЎ ТЭХНІЧНЫЯ КУРСЫ

Яшчэ на пачатку сёлетняга году сп-р М. Рачыцкі скончыў завочныя курсы тэхнічнага рысаваньня зь першаякаснымі вынікамі. Ён перарабіў увесь двухгадовы матар'ял за адзін год. Ягоныя здольнасьці былі заўважаныя, і ён адразу атрымаў добрую працу, дзе жадаем яму вялікіх посьпехаў. Сп-р М. Рачыцкі ад самага пачатку існаваньня беларускага жыцьця ў Канадзе быў заўсёды ў першых шэрагах актыву. Гэты карэспандэнт віншуе яго з посьпехамі і таксама варта пажадаць, каб М. Рачыцкі, цяпер пасьля сканчэньня навукі й атрыманьня сталай працы, вярнуўся да актыўнага жыцьця ў беларускай калёніі ў Таронце.

**М. К-р**

**ХОЧАШ ЗРАБІЦЬ СВАЙМУ БЛІЗКАМУ ПРЫЕМНАСЬЦЬ І АДНАЧАСНА КАРЫСЬЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ, ПАДАРУЙ ЯМУ КАМПЛЕКТ КНІЖАК ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

**УВАГА! УВАГА!**

Ужо выйшла ў сьвет цікавая й цэнная кніга Канстанціна Акулы:




Кніга абыймае 586 бачынаў друку й каштуе: у Задзіночаных Штатах Амэрыкі й Канадзе — 7 даляраў, у Аўстраліі й Ангельшчыне — 2 фунты, іншых краінах — раўнавартасьць 6 амэрыканскіх даляраў.

Ужо можна заказваць гэтую кнігу ў самога Аўтара паводля наступнага адрысу: **Mr. Konstantin Akula, 57 Riverdale Ave, Toronto 6, Ont. Canada,** а таксама ў Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» й ейных Прадстаўніцтвах.

Што зь сябе прадстаўляюць «Змагарныя Дарогі», чытач можа даведацца ізь зьмешчанага ў 1—2 (585—586) нумары «Бацькаўшчыны» спэцыяльнага артыкулу.

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**



### СЬВ. П. СЬЦЯПАН ЖЫЗЬНЕЎСКІ

Як даведваемся, 26 травеня сёлета памёр у горадзе Пэорыя, ЗША, на 69 годзе жыцьця, шмат каму ведамы ў Амэрыцы Сьцяпан Жызьнеўскі.

Сьвятой памяці Сьцяпан Жызьнеўскі нарадзіўся 17 сьнежаня 1893 году на Дзісьненшчыне. Падчас другой сусьветнай вайны пакінуў Беларусь. і ў 1949 годзе разам з сям'ёй, пераехаў у ЗША і пасяліўся ў Пэорыі. Тут ён працаваў да 1958 году, калі перайшоў на пэнсію старасьці. Нябожчык вельмі любіў музыку і ў меру магчымасьці памагаў мясцовай беларускай самадзейнай групе, якая выступала зь беларускімі танцамі пры розных нагодах.



Сьв. п. Сьцяпан Жызьнеўскі марыў, каб вярнуцца ў вольную й незалежную Беларусь і там закончыць свой жыцьцёвы шлях. Аднак, пасьля цяжкой хваробы яму давялося спачыць ў сваёй другой бацькаўшчыне – ЗША.

Нябожчык пахаваны на могілках Сэнт Адэльбэрт у Чыкага. Жалобную багаслужбу адправілі айцы Тарасэвічы. У паховінаі бралі ўдзел прадстаўнікі беларускага грамадзтва, якія адзначылі, што Нябожчык не пражыў дарма і выхаваў сваіх дзяцей на сьведамых беларускіх патрыётаў. Пасьля паховінаў госьці былі запрошаныя на Памінкі. Зяць Нябожчыка, д-р В. Рамук, падзякаваў ад імя сям'і ўсім прысутным за іхныя спачуваньні.

Вечная Памяць суродзічу-патрыёту!

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).




Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры і грамадзкага жыцьця.
Выдавец: Уладзімер Бортнік
РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.